
МНЕ ДАВОДЗІЛАСЯ БЫВАЦЬ У РОЗНЫХ КАЛАТНІНАХ, АЛЕ КАБ **У ТАКОЙ**? ЧОРТ.


ВЕДАЮ... ТОЛЬКІ ТЫ ПРЫХОДЗІШ ДА ДУМКІ, ШТО ШАЛЁНЕЙ УЖО БЫЦЬ НЕ МОЖА, ЯК РАПТАМ...


МНЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА САСКОКВАЦЬ З МЕСЦА ВОСЬ ТАК. Я... Я АДЧУВАЮ СЯБЕ БАЯЗЛІЎЦАМ.
АЛЕ ШТО МЫ МАГЛІ? СУР'ЁЗНА? КАЛІ Б МЫ ЗАСТАЛІСЯ, ЯНЫ Б ВЫСАЧЫЛІ НАС, ТЫ Ж РАЗ-УМЕЕШ. НАМ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО МЫ ЎВОГУЛЕ ЗМАГЛІ ЎЦЕКЧЫ.


SECOND TIME AROUND
CLOSED
ТАК, ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ... УСЁ МАГЛО БЫЦЬ КУДЫ ГОРШ. ДОБРА, ХОЦЬ НІКОГА НЕ ЗАБІЛІ.


ТАК. АЛЕ НЕХТА З НАС БЫЎ НА МЯЖЫ.


УСЁ ГЭТА ГВАЛТ...
STOCK GEN


...ЯГО ТАК ШМАТ. ЁН ТАКІ ЖАХЛІВЫ.


НЮ-ЁРК СТАЎ НЕБЯСПЕЧНЫМ МЕСЦАМ ДЛЯ НАС, КАЛІ **НАОГУЛ КАЛІ-НЕБУДЗЬ** БЫЎ БЯСПЕЧНЫМ. І ЯКОЙ БЫ НЯНАВІСТНАЙ НІ БЫЛА ГЭТА ДУМКА...


...НА НЕКАТОРЫ ЧАС НАМ ТРЭБА ЎЕХАЦЬ З ГОРАДА.













...МЫ НА МЕСЦЫ.

# НОРТГЕМПТАН ЧАСТКА І


ЭХ, ЯК ЖА ПРЫЕМНА ПАХРУСЦЕЦЬ КОСТКАМІ.
МАГУ САБЕ ЎЯВІЦЬ, ШТО АДЧУВАЕ БАЦЬКА. ЯГО НАГЕ МОЦНА ДАСТАЛАСЯ.
ЯНЫ З ЛЕА ЎСЁ ЯШЧЭ АДПАЧЫВАЮЦЬ. НЯХАЙ СПЯЦЬ... МЫ І БЕЗ ІХ РАЗБЯРОМ РЭЧЫ.
УХ ТЫ, ЭЙПРЫЛ... ВОСЬ ТУТ І ЖЫВУЦЬ ТВАЕ СВАЯКІ?
НЕ, МАЙКІ, ЯНЫ Ў ДОМЕ ДАЛЕЙ ПА ДАРОЗЕ.


SSHHHMMP
А ГЭТА...


...МЕСЦА, ДЗЕ БУДЗЕЦЕ ЖЫЦЬ ВЫ.


АЛЕ, ГЭТА ХАЦЯ Б НЕ ПАД ЗЯМЛЁЙ.
САПРАЎДЫ... Я ХАЦЕЛА Б ПРАПАНАВАЦЬ ВАМ БОЛЬШ УПАДАБЕНСТВАЎ, СЯБРЫ, АЛЕ Я І **БЕЗ ГЭТАГА** НАПРУЖВАЮ БАЦЬКОЎ, УЗЯЎШЫ КЕЙСІ.
ПАДКІНУЦЬ ІМ ЯШЧЭ ЧАТЫРОХ ЧАРАПАХА-ЛЮДЗЕЙ І БУЙНОГА ПАЦУКА БЫЛО Б... НУ, НЕ КРЫЎДУЙЦЕСЯ.


НЕ КЛАПАЦІСЯ, ЭЙПРЫЛ – УСЁ ВЫДАТНА, ДЗЯКУЙ.


У НАС ТУТ КУЧА РЫШТУНКАЎ ДЛЯ ПАХОДУ, АЛЕ ПРАСТОРНА – БУДЗЕ, ДЗЕ РАЗВЯРНУЦЦА. МАЕЦЦА ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ І НАВАТ МАЛЕНЬКАЯ ВАННАЯ З ПРАЦУЮЧЫМ ВАДАПРАВОДАМ. ПРАЎДА БЕЗ ДУША... ПРАБАЧЦЕ.
АЛЕ ВОЗЕРА КРЫШТАЛЬНА ЧЫСТАЕ... КАЛІ БЫЛА ДЗІЦЁМ, УВЕСЬ ЧАС МЫЛА Ў ІМ ГАЛАВУ.


ГЭТА НЕ ТЫ КАЗАЛА, ШТО БАЦЬКІ ЖЫЛІ Ў ОЛБАНІ?
І **ЖЫВУЦЬ**. ТАТА ЎСПАДКАВАЎ ГЭТУ ГАСПАДАРКУ ПАСЛЯ СМЕРЦІ БАБУЛІ А'НІЛ.
ЁН І МАЦІ ЗАЎСЁДЫ ЖАДАЛІ ЎЛАДКАВАЦЦА ТУТ У СТАРАСЦІ.


АДНАК, ПАСЛЯ ЯГО ІНСУЛЬТА, МАЦІ ВЫРАШЫЛА, ШТО СВЕЖАЕ ВЯСКОВАЕ ПАВЕТРА ПАСКОРЫЦЬ АКРЫЯННЕ.
І ЎЛІЧВАЮЧЫ, ПРАЗ ШТО МЫ ПРАЙШЛІ Ў ГОРАДЗЕ, Я ВЫРАШЫЛА, ШТО ЯНО МОЖА ДАПАМАГЦІ І ЎСІМ **НАМ**.


ВАННА НЕ ЗАНЯТАЯ, КАЛІ КАМУСЬЦІ ТРЭБА.


СВЕЖАМУ ПАВЕТРУ КАНЕЦ.
ФУУ.


ЛЕПШ АБУДЗІЦЬ СПЛІНТЭРА І ЛЕА. МЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ПАТРАПІЦЬ ДА БАЦЬКОЎ ПАЎГАДЗІНЫ НАЗАД, НЕ ХОЧУ, КАБ ЯНЫ ХВАЛЯВАЛІСЯ.
УЛІЧВАЙЦЕ ТОЕ, ШТО НАШ ДОМ ДАСТАТКОВА ДАЛЁКА АДСЮЛЬ, ТАМУ СПАДЗЯЮСЯ, ЯНЫ ВАС НЕ ЗАЎВАЖАЦЬ. АЛЕ ЎСЁ Ж НЕ ВЫСОЎВАЙЦЕСЯ.
ДАВЕРСЯ НАМ, ЭЙПРЫЛ – МЫ БУДЗЕМ АБСАЛЮТНА НЕПРЫКМЕТНЫМІ.
АГА...


...БЫЦЬ ЦІШЭЙ ВАДЫ І НІЖЭЙ ТРАВЫ – НАША ТЭМА.


ГАЛОЎНАЕ, КАБ ЧАС, ПРАВЕДЗЕНЫ ТУТ, ДАПАМОГ ЛЕА АКРЫЯЦЬ. ЁН ЗУСІМ НЕ Ў САБЕ: ТОЛЬКІ ПАЗНАЕ НАС, ЯК У НАСТУПНЫ МОМАНТ – МЫ ЎЖО КЛЯТЫЯ ВОРАГІ, ЦІ ШТОСЬЦІ ТАКОЕ.
ЯГО ПАВОДЗІНЫ АДПАВЯДАЮЦЬ ТАМУ, ШТО Я ЧЫТАЎ ПРА **ПРАМЫВАННЕ МАЗГОЎ.** НЕЙКІМ ЧЫНАМ ШРЭДАР ТРЫВАЛА ЗАСЕЎ У ЯГО ГАЛАВЕ. ТАМУ ЗА ІМ ТРЭБА ЎСТАЛЯВАЦЬ ПАЎНАДЗЁННАЕ НАЗІРАННЕ НА ВЫПАДАК РЭЦЫДЫВАЎ.


ПРАБАЧЦЕ, ШТО АБУДЗІЎ, СЭНСЭЙ.
ЭЙПРЫЛ ТРЭБА ЕХАЦЬ НА СУСТРЭЧУ З БАЦЬКАМІ.
НЯ ТРЭБА ПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ... Я Ў ПАРАДКУ. УВЕСЬ НАШ КЛОПАТ ТРЭБА НАКІРАВАЦЬ НА **ЛЕАНАРДА**...


«...ЁН ПРАЙШОЎ ПРАЗ ПРАЗМЕРНА ТРАЎМАНЕБЯСПЕЧНЫЯ АКАЛІЧНАСЦІ».
ЁЎ... ЛЕА. ЧАС УСТАВАЦЬ, БРАТКА.


ХТО.?!
ГЭЙ, ГЭЙ... ЦІШЭЙ, БРАТ. ГЭТА ПРОСТА Я, РАФ. ПАМЯТАЕШ?


РАФ? ДЗЕ... ЯК..?


ДАЙ ВЫЙСЦІ.
КАНЕШНЕ...


...НІЯКІХ ПРАБЛЕМАЎ.


ШТО ЗА..?
НЯЎЖО ГЭТА..?
НЕ ДАПУШЧУ!
FWP


SHNK


СМЯРДЗЮЧАЯ ПСІНА!
СТОЙ, Я...


WHOP


СЯДЗЕЛА Ў ЗАСАДЗЕ НА НАС, ТАК?
НЕ... ТЫ ПАМЫЛЯЕШСЯ. Я НЕ ЖАДАЮ БІЦЦА.
АГА... ЯК ЖА.
КАЖЫ, ХТО ЯШЧЭ ТУТ З ТАБОЙ, ІНАЧ Я...
FWAK!
УФФ!


НАЗАД! ЯНА Ж СКАЗАЛА, ШТО НЕ ХОЧА БОЙКІ!


ЭЭЭ... А ЧАМУ ГЭТА ЛЕА КРЫЧЫЦЬ НА РАФА?
І АДКУЛЬ, ЧОРТ БЯРЫ, ТУТ УЗЯЛАСЯ **АЛАПЕКС**?
ВОСЬ ВАМ І «НІЖЭЙ ТРАВЫ, ЦІШЭЙ ВАДЫ».


ЛЕА, ТЫ ШТО, АШАЛЕЎ? ЯНА Ж ЗБІРАЛАСЯ НАПАСЦІ НА ЦЯБЕ СА СПІНЫ ПАРУ СЯКУНД НАЗАД...
НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ. ТЫ НЕ ЧУЎ ЯЕ? НЕ БАЧЫШ, ШТО ЯНА ЦЯЖКА ПАРАНЕНА?
ЦІ БАЧЫШ ШТО, У НАС ТУТ ШМАТ ПАРАНЕНЫХ, ДЫ ТОЛЬКІ АДНА З ІХ – ГЭТА ВОРАГ З **КЛАНА ФУТ**.
КАЛІ ТОЛЬКІ...




«ТОЛЬКІ» ШТО?
НЯ ВЕДАЮ, БРАТ – ГЭТА ТЫ МНЕ СКАЖЫ. ГЭТА Ж ТЫ АБАРАНЯЕШ БЛЫШЫНУ ШАЎКУ ШРЭДАРА.


ЯГО ГЭТА НЯ ТЫЧЫЦЦА, **НІЯКІМ ЧЫНАМ**!
ДЫ НУ?
RAAGH!
ХРК!


ОХ, НУ ФАЙНА.
НАПЕРАД, МАЙКІ! І ШУКАЙ ІНШЫХ ФУТ!
ЗНОЎ?


ГРААА!
ПАГЛЯДЗІ НА СЯБЕ! СПАЧАТКУ АБАРАНЯЕШ ПАСЛУГАЧА ФУТ, А ЦЯПЕР ХОЧАШ ПРЫХЛОПНУЦЬ МЯНЕ!


ЧАМУ Б ГЭТА?


НУ-КА СУНЯМІСЯ, РАФ!
САПРАЎДЫ, БРАТЫ... ГЭТА ГЛУПА!


НЕ КРАНАЙ МЯНЕ!
ДЫ Я ТОЛЬКІ ХАЧУ ДАПАМАГЧЫ, ЧУВАК.
П'ЯЎКА! ДОНІ, АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ!
ТАДЫ НЕ РАБІ ДУРНІНЫ.
ХОПІЦЬ!


СПЫНІЦЕСЯ, СЫНЫ.
АЛЕ, МАЙСТАР, БО ФУТ МОГУЦЬ...
РАБІ ЯК ЗАГАДАНА І АСТУДЗІ ЗАПАЛ. ВІДАВОЧНА, ШТО АЛАПЕКС АДНА І Ў МЕНШАСЦІ.


МІС А'НІЛ ДАБРАСАРДЭЧНА ЗАПРАСІЛА НАС СЮДЫ, КАБ ДАЦЬ НАМ НЕАБХОДНАЕ СХОВІШЧА.
Я **НЕ ДАЗВОЛЮ** ВАМ АБРАЖАЦЬ НАШУ ГАСПАДЫНЮ І ГАНІЦЬ СЯБЕ, ПРАЦЯГВАЮЧЫ КАНФЛІКТ, ЯКІ МЫ ІМКНЕМСЯ ПАЗБЕГНУЦЬ.


ДОБРА.


А ШТО ДА **ЦЯБЕ**, АЛАПЕКС...


...Я, ТАК САМА, ЯК І АСТАТНІЯ, НЕ РАЗУМЕЮ, ЯК ТЫ ПРАБРАЛАСЯ СЮДЫ ЗА НАМІ І НАВОШТА.
АДНАК, Я ДАМ ТАБЕ МАГЧЫМАСЦЬ ПАТЛУМАЧЫЦЬ, БО ТЫ ЎМЕШВАЛАСЯ Ў МАЮ БОЙКУ З АРОКУ САКІ*.
АЛЕ, СЕНСЭЙ, ЯНА...
СЦІХНІ, РАФАЭЛЬ.
*У МІНУЛЫМ ВЫПУСКУ

ПАСЛУХАЙЦЕ... ВЫ НЕНАВІДЗІЦЕ МЯНЕ... НЕ ВЕРЫЦЕ... МАГУ ГЭТА **ЗРАЗУМЕЦЬ**. Я ПАМЯТАЮ, ШТО БЫЛО МІЖ НАМІ...

...АЛЕ ЦІ ВЕРЫЦЕ ВЫ МНЕ ЦІ НЕ, БОЛЬШ Я ЎЖО НЕ НАЛЕЖУ ФУТ.

«ВЫ САМІ ЎСЁ БАЧЫЛІ. Я НАПАЛА НА ШРЭДАРА».

«АЛЕ ПЕРАМАГЧЫ ЯГО НЕ ЗМАГЛА... І ЗРАЗУМЕЛА, ШТО МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА КІНУЦЦА Ў БАДЗЯЖНІЦТВА».

«ТОЛЬКІ НЕ МЕЛА РАЗУМЕННЯ – КУДЫ. КЛАН ФУТ – ГЭТА ЎСЁ, ШТО Ў МЯНЕ БЫЛО».

«АЛЕ МНЕ НЕ ПАТРЭБНА БЫЛА СТРАЛА КАРАІ Ў РУКЕ, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ: ДЛЯ ФУТ Я ЎЖО ЎСЁ РОЎНА, ШТО МЁРТВАЯ».

«І Я ПАБЕГЛА ЗА ВАМІ».

«Я ЧУЛА, ЯК ВЫ РАЗМАЎЛЯЛІ... ЯК УЗГАДАЛІ, ШТО ПАКІНЕЦЕ ГОРАД».

«І Я ЗРАБІЛА ВЫБАР».

«КАЛІ ФУТ ХОЧУЦЬ МЯНЕ ЗАБІЦЬ...»

«...ТАДЫ НЯХАЙ СПАЧАТКУ ПАСПРАБУЮЦЬ СХАПІЦЬ».

ПАЧАКАЙ... ТОЛЬКІ АДНАГО НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ: **ЧАМУ** ТЫ НАПАЛА НА ШРЭДАРА. НАВОШТА?

ЁН ЗАБІЎ МАЮ СЯМ'Ю.

МЯНЕ НЕ ХВАЛЮЕ, ЦІ ЛІЧЫЦЕ ВЫ ГЭТА ХЛУСНЁЙ. Я САПРАЎДЫ НЕ ХАЧУ БІЦЦА.

БОЛЬШ НЕ ХАЧУ.


І ЎЯВІЛА, ШТО МЫ ПАВЕРЫМ У ГЭТУ ХЛУСНЮ?! Я ЎЖО ЧУЎ ГЭТУ ТВАЮ ГІСТОРЫЮ «БЕДНАЙ ЛІСКІ-ПАКУТНІЦЫ» Ў ПОЎНЫМ ВАРЫЯНЦЕ.
ЯНА НЕ ПАДМАНВАЕ. Я... Я ВЕДАЮ, ШТО НЕ.
ТАМУ ТЫ ЯЕ ТАК ГОРАЧА АБАРАНЯЕШ?
ШТО ТЫ ЎТОЙВАЕШ АД НАС, ЛЕА?
НАВАТ НЕ...
СТОП!


Я НЕ СТРЫВАЮ ГЭТАЙ ДЗІЦЯЧАЙ ЗГРЫЗОТЫ! ВЫ АБОДВА, **ЗАМАЎЧЫЦЕ**.
ХОПІЦЬ ЗАГАДВАЦЬ, ЁШЫ...


...ТЫ НЕ МОЙ МАЙСТАР.


ЯК СКАЖАШ.




АЛАПЕКС, УСЁ РОЎНА, ЦІ ШЧЫРЫ ТВОЙ СПОВЕД – ТЫ РАТАВАЛА МАЁ ЖЫЦЦЁ І ГОНАР ПАДКАЗВАЕ МНЕ ПАВАЖАЦЬ ГЭТЫ ФАКТ. ЗГОДНА КОДЭКСУ БУСІДА, ПРЫМАЮ ТВАЮ ПРАПАНОВУ МІРА. БОЛЬШ МЫ ЦЯБЕ НЕ ПАКРЫЎДЗІМ.
АЛЕ, БАЦЬКА...
Я ЎСЁ СКАЗАЎ.


ЯКАЯ РОЗНІЦА...
...МНЕ НЕ ПАТРЭБНЫ НІ ВАШ ГОНАР, НІ ДАПАМОГА.


НУУУУ... УСЁ ПРАЙШЛО **НЕ ТАК УЖО** І ДРЭННА.
ПРЫЙШОЎ НАШ ЧАС?
ТАК.


ЭМ, ЯК БЫ НІ ХАЦЕЛАСЯ Б ЗАТРЫМАЦЦА, АЛЕ НАМ САПРАЎДЫ ТРЭБА ЕХАЦЬ, РАБЯТЫ.
МАЯ МАЦІ ПРАМА ЗАРАЗ, НАПЭЎНА, ГАТОВА ВЫСЛАЦЬ ЗА НАМІ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГВАРДЫЮ.


ШКАДУЮ, ШТО ЎСЁ ТАК ЗДАРЫЛАСЯ, ЭЙПРЫЛ.
НІЧОГА, ДОНІ. МЫ ЎСЕ ВЕДАЛІ, ШТО БУДЗЕ НЕЛЁГКА. ВЫ ТОЛЬКІ НЕ СПАЛІЦЕ МНЕ СВІРАН І ЯШЧЭ ШТО-НЕБУДЗЬ, ДОБРА?


СЯБРА, ДАЙ ЛЕА АДПАЧНУЦЬ. ХЛОПЕЦ ПРАЙШОЎ ПРАЗ ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО.
ДЫ ВЕДАЮ... Я ХВАЛЮЮСЯ, ШТО ЗРЫВАЮСЯ НА ІМ ВОСЬ ТАК. ЗАРУМЕЮ ЖА, ШТО ЁН ЗАРАЗ САМ НЕ СВОЙ...
...АЛЕ Я ЎСЁ РОЎНА НЕ ВЕРУ ТОЙ ПАГАНЦЫ, ЯКУЮ Б ТАМ ЖАЛАСЛІВАЕ ГЛУПСТВА ЯНА НЕ НЕСЛА.


АДНЯСІСЯ ДА ГЭТАГА ПРАСЦЕЙ. А ЦЯПЕР ПАЖАДАЙ МНЕ ПОСПЕХАЎ – ЕДУ ЗНАЁМІЦЦА З БАЦЬКАМІ МАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЫ.
ТВАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЫ?! **КАЛІ ГЭТЫ** ТЫ ПАСПЕЎ?
КАЛІ ЛЯЖАЎ У ШПІТАЛІ. МЫ ГЭТАГА АСАБЛІВА НЕ РАСКАЗВАЕМ НІКОМУ... НАМ УСЁ ПАКУЛЬ НЕЗНАЁМА. НУ, І... МЫ НЕ ХАЦІМ СПЯШАЦЦА.


АГА, НІЧОГА ТАК НЕ ЗАПАВОЛЬВАЕ, ЯК ЗНАЁМСТВА З БАЦЬКАМІ.
ОХ, СЯБАР...


«...НАВАТ НЕ НАГАДВАЙ».
НУ ЎСЁ, ДАЕХАЛІ...


...ТЫ ГАТОВЫ?
НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ЭЙПРЫЛ... АДЧУВАННЕ, ШТО ВАРТА АПРАНУЦЬ МАЮ ХАКЕЙНУЮ МАСКУ ЦІ ЯШЧЭ ШТО.
ОЙ, ДЫ НЕ БУДЗЬ ДЗІЦЁМ. МАЕ БАЦЬКІ НЕ КУСАЮЦЦА...


...МОЦНА.
ШТО?


**А ВОСЬ І ВЫ!** Я ЎЖО ПАЧАЛА ХВАЛЯВАЦЦА ЗА ЦЯБЕ, РАДНАЯ... ШТО ВАС НАСТОЛЬКІ ЗАТРЫМАЛА?
ТЫ ЎЖО ПРАБАЧ, МАТУЛЬ – У НАС ПА ДАРОЗЕ ЎЗНІКЛА... **НЕАДКЛАДНАЯ СПРАВА**. ГЭТА ТРОХІ ЗМЯНІЛА НАШ ГРАФІК.


СПРАВА? НУ, ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, РАДА, ШТО З ВАМІ ЎСЁ ДОБРА.


МАМ, ХАЧУ ПРАДСТАВІЦЬ КЕЙСІ ДЖОНСА. КЕЙСІ, ГЭТА МАЯ МАЦІ, ЭЛІЗАБЕТ О'НІЛ.
РАДЫ... РАДЫ СУСТРЭЧЫ, МІСІС А'НІЛ.
О, НАЗЫВАЙ МЯНЕ ПРОСТА – БЭТ, ЯК І ЎСЕ. Я ТАКСАМА РАДА НАШАМУ ЗНАЁМСТВУ. ЭЙПРЫЛ ШМАТ РАСКАЗВАЛА ПРА ЦЯБЕ.


ЯНА СКАЗАЛА, ТЫ БЫЎ ЗОРКАЙ ХАКЕЯ Ў ЯЕ ШКОЛЕ. ЯЕ БАЦЬКА АМАТАР СПОРТУ, ТАМУ ВЫ З ІМ ЗЛАДЗІЦЕ.
ЯК ЁН ТАМ?
НАРМАЛЬНА. СТАРАНА СПРАБУЕ ЎСТАЦЬ НА НОГІ. МЫ РОБІМ НЕВЯЛІКІЯ ПОСПЕХІ ЎЖО АМАЛЬ КОЖНЫ ДЗЕНЬ.


ЗАРАЗ ЁН У ГАСЦІНАЙ...
...ГЛЯДЗІЦЬ **БЕЙСБОЛ**, КАНЕШНЕ.


ДЖОН, ТУТ ЭЙПРЫЛ СА СВАІМ СЯБРАМ ПА КАЛЕДЖУ... ТОЙ ГУЛЕЦ У ХАКЕЙ, ПРА ЯКОГА МЫ РАЗМАЎЛЯЛІ.
НІЧОГА... СТРАШНАГА, СЭР.
РАДЫ, ШТО ЎСЕ... ЦЭЛЫ. ПРАБАЧ... НЕ МАГУ ПАЦІСНУЦЬ РУКУ, КЕЙСІ.
НЕ СЭР. ДЖОН.
У НАС У СЯМ'І ДАВОЛІ НЕФАРМАЛЬНЫЯ ЗНОСІНЫ, ПАБАЧЫШ.


ПРЫВЕТ, ТАТУЛЯ.
ПРЫВЕТ... ДАЧКА.


НЕ ЎЯЎЛЯЕШ, ЯК НАМ СТАЛА ЛЁГКА НА ДУШЫ, КАЛІ ТЫ ПАТЭЛЕФАНАВАЛА СКАЗАЦЬ, ШТО ЕДЗЕШ ДА НАС, МІЛАЯ.
ДАРЭЧЫ, МЫ ТОЛЬКІ ШТО ДАВЕДАЛІСЯ ПРА **СТОКГЕН** З НАВІНАЎ.
СТОКГЕН?


А НЯЎЖО... ТЫ ЯШЧЭ НЕ ВЕДАЕШ?
НЕ. ПРА ШТО?
ЯГО НЕ СТАЛА...

«...ЗУСІМ НЕ СТАЛА».

ТЫ НЕ ЗМОЖАШ СХАВАЦЦА АД ІСЦІНЫ.

НІБЫТА МОНСТАР, ШТО ВЫСОЧВАЕ АХВЯРУ Ў НАЧЫ, ІСЦІНА...

...ЗНОЙДЗЕ ЦЯБЕ.

ГЛУПЕЦ. ЗА ГЭТА ТЫ ПАМРЭШ.

А ЦЯПЕР Я ВЫМУШАНЫ ПАПРАСІЦЬ ЦЯБЕ ЗМЯНІЦЬ ТОН, ПРЫЯЦЕЛЬ. ТЫ РАЗМАЎЛЯЕШ ЯК ІДЫЁТ ШРЭДАР...

САПРАЎДНАЯ СІЛА ЛЯЖЫЦЬ У ЖАДАННІ НАНЕСЦІ ЎДАР ХУТКА І БЯЗЛІТАСНА!

НА САМОЙ СПРАВЕ, АДКАЗНАСЦЬ ЗА ЎВЕСЬ ГЭТЫ СМУТАК ЛЯЖЫЦЬ НА ІНШЫМ.

НА КІМ, МАЦІ? МАЛЮ, СКАЖЫ.

ДЗІЦЯЦІ, КАЛІ ТЫ ЗНОЙДЗЕШ ТОЕ, ШТО СТРАЦІЎ...

...ТЫ ЗНОЙДЗЕШ І АДКАЗ НА СВАЁ ПЫТАННЕ.

МАЦІ, **ДЗЕ Ж** ТЫ? ТЫ МНЕ ПАТРЭБНА.

ПРАШУ ЦЯБЕ... Я ТАК ЗАБЛЫТАЎСЯ.

«ТАК СТАМІЎСЯ».

КЕЙСІ ЗДАЕЦЦА... ПРЫЕМНЫМ.

ТАК, **НЕСУМНЕЎНА**, ПРАЎДА Ж? ХАЦЯ БЕДНЫ ВЕЛЬМІ НАПУЖАНЫ.

ПАСПІ. ДАБРАНАЧ, КАХАНЫ.

НУ ЎСЁ, Я ПРЫГАТАВАЛА ТВОЙ ПАКОЙ, ЭЙПРЫЛ. А ВОСЬ ЧЫСТЫЯ КОЎДРЫ І ПАДУШКА ДЛЯ РАСКЛАДНОЙ КАНАПЫ.

ДЗЯКУЙ, МІСІС О'НІ... ЭЭЭ... БЭТ.

ЗВАР'ЯЦЕЦЬ. ПАВЕРЫЦЬ НЕ МАГУ.

СТОКГЕН ЗНІШЧАНЫ ЦАЛКАМ? ГЭТА... ВЫНАС МОЗГА НЕЙКІ.

ТАК, ЯК УСПОМНІШ, КОЛЬКІ ТВОЙ БАЦЬКА НА ІХ АДПРАЦАВАЎ, ЦЯЖКА СТАНОВІЦЦА ПАВЕРЫЦЬ, ШТО НІЧОГА БОЛЬШ НЯМА.

ДЗЯКУЙ БОГУ, ТЫ БЫЛА НЕ ТАМ. БАЦЬКА НІКОЛІ Б НЕ ПРАСЦІЎ СЯБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ДАПАМОГ ТАБЕ З ПАСТУПЛЕННЕМ У ІХ ІНТЭРНАТУРУ.

ЯМУ СТАЛА ЛЯГЧЭЙ, КАЛІ ДАВЕДАЎСЯ, ШТО ТЫ ЦАЛА.

НАЎРАД ЦІ Ў ІХ БЫЛА АВАРЫЯ. МАМ... УВЕСЬ ТОЙ ЧАС, ШТО Я БЫЛА Ў СТОКГЕН, ТАМ РАБІЛІСЯ ЦЁМНЫЯ СПРАВЫ...

...І МНОГІЯ – НЕЛЕГАЛЬНЫЯ, ЯК Я ЛІЧУ. Я РАЗЛІЧВАЛА АБМЕРКАВАЦЬ ГЭТА З ТАТАЙ.

ДЗІЎНЫЯ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ НАД ЖЫВЁЛІНАМІ І НЕВЕРАГОДНАЕ **РЭЧЫВА**...

ТЫ СКАЗАЛА – РЭЧЫВА?

ТАК. А ШТО?

МАМ? ШТО НЕ ТАК?

МАБЫЦЬ НІЧОГА.

ПАЧАКАЙЦЕ ТУТ ТРОХІ. Я ЎСЁ ПАТЛУМАЧУ, ТОЛЬКІ СПАЧАТКУ ПРЫГАТУЮ ГАРБАТУ.


«НОЧЫ ТУТ **ХАЛОДНЫЯ**...»


«...ТАМУ СПАТРЭБІЦЦА ШТО-НЕБУДЗЬ ДЛЯ СУГРЭ-ВУ, ПАКУЛЬ МЫ ГУТАРЫМ».


«У МЯНЕ ЁСЦЬ, ЧЫМ З ВАМІ **ПАДЗЯЛІЦЦА**».


«ЯК Я СКАЗАЛА, ГЭТА **МОЖА** АКАЗАЦЦА ЦІ ВАЖНЫМ, ЦІ НЕ».


«...ТЫМ НЕ МЕНШ, ПРЫЙШОЎ ЧАС ВАМ ДАВЕДАЦЦА ПРАЎДЫ».


«ДАВЕДАЦЦА ПРА ВАЖНЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЦІ З МАЙГО МІНУЛАГА І МІНУЛАГА ТВАЙГО БАЦЬКІ».


«ПРА РЭЧЫ, ЯКІЯ БЫЛІ, МАГЧЫМА, КУДЫ БОЛЬШ НЕБЯСПЕЧНЫМІ, ЧЫМ ЗДАВАЛАСЯ».
ПРАЦЯГ БУДЗЕ.

# У 2018




## НА COMICSBY.BY ЗБОРНІК ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ НУМАР 3

## НАСТУПНЫЯ НУМАРЫ НА COMICSBY.BY







